ГРОДНА
№9 (584),
1 мая 2022

# СЛОВА ЖЫЦЦЯ

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



## Заставацца з Езусам




*Прычынай устанаўлення адзінага свята апосталаў Філіпа і Якуба стала размяшчэнне іх рэліквій у адным месцы – базілікі Дванаццаці святых апосталаў у Рыме.*

*на старонцы* **2**

## Ці будуць сёлета пілігрымкі?




*"Чакаем рашэння біскупаў, але апошняе слова застаецца за ўладамі", – кажуць кіраўнікі пешых груп.*

*на старонцы* **4**

## Лапеніца: разбураная святыня




*Адшукаць неадбудаваны храм на тэрыторыі Гродзеншчыны не так і проста, але і тут яны сустракаюцца.*

*на старонцы* **6**

# "БУДЗЕМ ЕХАЦЬ!" АБО ПРА ВАНДРОЎКУ МАЦІ БОЖАЙ ПА БЕЛАРУСІ




*Пашырэнне культу – гэта заўсёды вынік актыўных дзеянняў духавенства і вернікаў*

**Будслаў, Браслаў, Брэст, Бялынічы, Гудагай, Гродна, Лагішын, Тракелі – копіі цудадзейных абразоў з гэтых найвядомейшых санктуарыяў Беларусі пачалі перэгрынацыю па нашай краіне ў чэрвені мінулага года. Іх арыгіналы былі ў свой час каранаваны папскімі каронамі, што азначае прызнанне іх духоўнага значэння на нашай зямлі. У марыйным месяцы маі разам з а. Станіславам Станеўскім CSsR, адным з арганізатараў перэгрынацыі, разважаем, чаму варта запрасіць "Мадоннаў" у свой дом.**

*на старонцы* **3**

# "ГОДНАСЦЬ ЖАНЧЫНЫ І ЯЕ ПАКЛІКАННЕ – СПРАДВЕЧНАЯ ТЭМА ЛЮДСКОЙ І ХРЫСЦІЯНСКАЙ РЭФЛЕКСІІ"




**Дзень жанчын, 8 сакавіка, прайшоў, аднак май – месяц асаблівага ўспаміну Марыі, Маці Божай, жанчыны – таксама можа быць добрай нагодай для разважання над павагай да жанчын у гісторыі Каталіцкага Касцёла і яго асяроддзя.**

*на старонцы* **5**

СЛОВА РЭДАКТАРА

# Дарагія Чытачы!



Літанія да Маці Божай, таксама вядомая як Ларэтанская літанія, уяўляе сабой малітву шматлікіх заклікаў, у якой Марыі даюцца розныя тытулы і імёны, якія апісваюць Яе ролю, заслугі і прыкметы. Кожны з гэтых тытулаў або імён узяты са Святога Пісання, традыцыі ці дэкрэтаў Касцёла. Аднак больш за ўсё тых, якія выспеўваў Божы народ.

Молячыся літаніяй, трэба ўсведамляць, што гэта своеасаблівае пяшчотнае прамаўленне да Маці, прывітанне Яе мноствам імён. Такое наша звеставанне. Як арханёл Габрыэль, мы прыходзім на сустрэчу з Ёй з добрым словам. Такое стаўленне вельмі важнае. Гэтая літанія, якая апісвае Найсвяцейшую Маці, падобна на набор указальнікаў, што дазваляюць нам глыбей увайсці ў таямніцы Яе жыцця, пазнаць Яе і зразумець, наколькі Яна любіць нас.

У кожнага з нас ёсць яшчэ свае заклікі і тытулы для Марыі, таму што для кожнага Яна з'яўляецца выратаваннем і вялікай падтрымкай, калі патрэбна дапамога і парада. Св. Бернард, вялікі шанавальнік Маці Божай, казаў: "Заўсёды глядзі на Марыю: ідучы за Ёю, не заблукаеш".

Пражываючы месяц, асабліва прысвечаны Найсвяцейшай Маці, вернемся да традыцыйных маёвых набажэнстваў, будзем маліцца Ларэтанскай літаніяй, каб бяспечнай і прамой дарогай накіроўвацца ў Дом Айца.

ks. Jerzy Martinowicz

КАЛЯНДАР

**2 мая**

***Успамін св. Атаназія, біскупа і доктара Касцёла.***

*Св. Атаназій нарадзіўся ў Александрыі ў 295 годзе і ўжо як дыякан адыграў прыкметную ролю на Нікейскім саборы (325 год), які асудзіў вучэнне Арыя, што адмаўляла боства Хрыста. Стаўшы патрыярхам Александрыі, ён нястомна змагаўся словам і пяром з арыянствам. Рашуча абараняючы праўды веры, пяць разоў высылаўся з Александрыі і правёў у ссылцы ў суме 17 гадоў. Памёр у Александрыі 2 мая 373 года.*

**8 мая**

***Нядзеля Добрага Пастыра.***

*У нядзелю Добрага Пастыра распачынаецца тыдзень малітвы аб пакліканнях да Божай службы ў Касцёле. Спрадвеку – яшчэ ў катакомбах і на старажытных мазаіках – Хрыста адлюстроўвалі як Добрага Пастыра, які моцна трымае на плячах авечку. Гэта сімвал адной з найдаражэйшых праўд веры: ён выражае ўвесь клопат Пана Езуса аб кожным з нас. Молімся за ўсіх святароў, якія сталі на нашым жыццёвым шляху, і просім аб новых, шматлікіх і святых святарскіх, манаскіх і місіянерскіх пакліканнях.*

**9 мая**

***Дзень малітвы за ахвяр II Сусветнай вайны і аб супакоі ва ўсім свеце.***

*Успомнім у гэты дзень усіх ахвяр вайны, а таксама будзем маліцца за мір і прыкладаць пастаянныя намаганні, каб захаваць яго ва ўсім свеце. Памолімся, каб Езус адарыў нас благаслаўленнем супакою і ацаліў тое, што ў нас, у нашых сэрцах і супольнасцях падзелена і парушана. Памолімся, каб Боскі Настаўнік паказаў нам, як трэба любіць адзін аднаго, нягледзячы на адрозненні, як нагадваць свету праўду пра любоў Айца да ўсіх без выключэння.*

**14 мая**

***Свята св. Мацея, апостала.***

*Св. Мацей быў адным з вучняў Хрыста, які суправаджаў Настаўніка ад Яго хрышчэння ў Іардане да ўнебаўшэсця. Абраны стаць апосталам замест Юды як сведка ўваскрасення Хрыста. Згодна з традыцыяй, спачатку прапаведаваў Евангелле ў Юдэі, а затым у Эфіопіі, дзе загінуў як мучанік каля 50 года.*

# ЗАСТАВАЦЦА З ЕЗУСАМ

працяг са с. 1

**Розныя дарогі вядуць да Бога. Часам яны звілістыя, поўныя складаных падзей. Аднак важна, каб у пошуках нашага Стварыцеля мы не здаваліся і не адмаўляліся.**

*Кс. Юрый Марціновіч*




Св. Філіп

Знайсці Бога дапамагае вера. Прыклад гэтага даюць святыя Філіп і Якуб. Іх шляхі да пазнання Езуса былі рознымі. Паводле Евангелля, св. Філіп спачатку быў вучнем Яна Хрысціцеля. Ён паходзіў з Бэтсаіды. Езус паклікаў Філіпа на наступны дзень пасля Сымона і Андрэя. Больш падрабязна пра гэтага святога расказвае Традыцыя. Паводле яе, Філіп прапаведаваў Добрую Навіну ў Грэцыі. Ён загінуў мучаніцкай смерцю ў часы праўлення імператара Даміцыяна.

Св. Якуб Малодшы быў братам св. Юды Тадэвуша і, верагодна, Сымона – таксама апосталаў. Пасля ўваскрасення Езуса ён спрабаваў умацаваць веру першых паслядоўнікаў хрысціянскай супольнасці. Пасля смерці Якуба Старэйшага стаў яго пераемнікам. Ва ўзросце 45-49 гадоў Якуб напісаў ліст да вернікаў Касцёла яўрэйскай нацыянальнасці. У ім даў практычныя рэкамендацыі для першых паслядоўнікаў Езуса. У 62 годзе Якуба абвінавацілі ў парушэнні закона і асудзілі на забіццё камянямі.

Апостал Філіп быў сведкам слоў Езуса, які сказаў, між іншым, што Ён – дарога. Мы добра ведаем, што ўсюды, дзе з'яўляўся чалавек, пачалі ўзнікаць дарогі, якія адзначалі людскія вандроўкі. Чалавек пастаянна кудысьці імкнецца, каб дабрацца да пастаўленай мэты. Так і наша жыццёвая дарога павінна накіроўвацца да Бога. Толькі шлях, які вядзе да Бога, – правільны.

Сёння свет прапануе нам шмат шляхоў, якія не вядуць у Неба, але заклікаюць даць шчасце і радасць. На жаль, іншыя дарогі, чым тыя, што вядуць да Бога, заўсёды тупіковыя. Указальнікі на іх кіруюць да нявер'я, пустых задавальненняў, матэрыялізму або пустой ганарыстасці.

Адзіную дарогу да шчасця паказвае нам Езус. Ён хоча быць нашай дарогай, бо ведае, што гэта для нас самы лепшы і бяспечны напрамак у жыцці. І хоць мы можам адчуваць у сваім сэрцы трывогу перад крочаннем Божымі сцежкамі, таму што яны цяжкія і

**Свята святых апосталаў Філіпа і Якуба адзначаем 6 мая.**

патрабавальныя, мусім памятаць словы Езуса: "Хто верыць у Мяне, будзе рабіць справы, якія Я раблю, і большыя за іх зробіць, бо Я іду да Айца" (Ян 14, 12).

"Я – дарога і праўда, і жыццё" (Ян 14, 6). Гэтыя словы – самы прыгожы план нашага жыцця. Езус запрашае нас ісці за Ім, таму што Ён з'яўляецца дарогай. Гэтую жыццёвую сцежку абралі святыя апосталы. І




Св. Якуб Малодшы

святых апосталаў Філіпа і Якуба суправаджае нас у час зямной пілігрымкі, каб мы маглі ісці праз нягоды

**Задача кожнага апостала і кожнага вучня Езуса – прывесці шмат людзей да Збаўцы. Каб выканаць гэтае заданне, трэба спачатку самім добра ведаць Езуса, трэба любіць Яго і жыць для Яго.**

хоць іх шлях да Неба вёў праз пераслед і пакутніцкую смерць, яны паказваюць нам, што варта заставацца з Езусам.

Няхай заступніцтва святых апосталаў Філіпа і Якуба суправаджае нас у час зямной пілігрымкі, каб мы маглі ісці праз нягоды з верай і перакананнем, што наш голас як сведчанне і абвяшчэнне Добрай Навіны будзе распаўсюджвацца па ўсёй зямлі, нягледзячы на перашкоды.

# "БУДЗЕМ ЕХАЦЬ!" АБО ПРА ВАНДРОЎКУ МАЦІ БОЖАЙ ПА БЕЛАРУСІ

працяг са с. 1

Вольга Сяліцкая, Ангеліна Марцішэўская

***– Айцец Станіслаў, адкуль узнікла ідэя з перэгрынацыяй марыйных абразоў?***

– Перэгрынацыя пачалася ў складаны для Беларусі перыяд: пандэмія, сітуацыя ў краіне, пажар у Будславе... Гэта і стала галоўным штуршком ініцыятывы. Народ патрабаваў духоўнага ўздыму.

Адносна выбару марыйных абразоў – дык культ Маці Божай існаваў у нашай краіне з самага пачатку. Аб гэтым сведчаць усе іконы, што прымаюць удзел у перэгрынацыі. Яны ўсе датуюцца пачаткам XVII стагоддзя. З той пары да цудадзейных абразоў прыходзілі людзі і прыносілі свае малітвы. Існуюць кнігі, дзе запісаны і пацверджаны ўсе цуды, што адбыліся на Беларусі праз заступніцтва Найсвяцейшай Панны.

Зважаючы на гэта, я ўсвядоміў, што сёння шмат вернікаў не ведаюць усіх цудадзейных абразоў нашых зямель. Магчыма, людзі больш знаёмыя з марыйнымі іконамі сваіх дыяцэзій (цікава, што падчас пандэміі мы перасталі пілігрымаваць у марыйныя санктуарыі і цяпер Марыя сама распачала вандроўку да нас). Нават я не ведаў, што ў Гомелі ці Брэсце ёсць такія абразы. Не чуў таксама пра Маці Божую Барунскую. А хочацца, каб Марыя надалей была шанаваная ў нас ва ўсіх сваіх імёнах і ахінала люд сваёй апекай.

***– З якімі цяжкасцямі Вы сутыкнуліся падчас арганізацыі перэгрынацыі?***

– Цяжкасці былі толькі на самым пачатку перэгрынацыі, калі мы планавалі рухацца картэжам на машынах і нам патрэбны быў дазвол. Павінны былі выехаць у 15.00, а дазвол прыйшоў толькі пасля трэцяй гадзіны. Быў чэрвень 2021 года, сітуацыя ў краіне была і надалей застаецца напружаная, таму дзякуй Богу, што атрымалася арганізаваць перэгрынацыю, каб прасіць Маці Божую аб патрэбных ласках.



У кнізе цудаў праз заступніцтва Маці Божай на беларускай зямлі запісаны нават уваскрашэнні

***– У кожнага паломніцтва ёсць канчатковы пункт – мэта. Які галоўны намер гэтай перэгрынацыі?***

– Ад пачатку перэгрынацыі мы праехалі 3125 км, наведваючы 30 парафій. І кожны візіт прысвечаны просьбе, каб Бог меў у апецы нашу краіну. Каб кожны дом, кожная сям'я яшчэ больш наблізіліся да Госпада праз Марыю. І так будзем трываць, пакуль не аб'ездзем усю Беларусь.

***– З Вашых назіранняў, ці аб'ядноўвае гэтая "акцыя" беларусаў?***

– Лічу, што аб'ядноўвае, бо закранае тое, што найбольш патрэбна сучаснаму свету – духоўнае адраджэнне. Вельмі важна, што пасля кавіднага перыяду "зачыненых касцёлаў" людзі не баяцца прыходзіць і стаяць на каленях перад гэтымі абразамі. Духоўная еднасць праз Марыю моцна заўважальная. Яны прыходзяць, каб прасіць у Яе заступніцтва, як некалі рабілі нашы дзяды і прадзеды.

***– Ці прыносіць перэгрынацыя той плён, на які Вы разлічвалі?***

– Многія ксяндзы кажуць, што рэакцыя вернікаў на перэгрынацыю – гэта такі духоўны выбух. Абразы звычайна знаходзяцца ў парафіі на працягу двух тыдняў, і ўвесь гэты час касцёлы поўняцца. Людзі прыходзяць пакланіцца Маці Божай штодзённа – такі маюць духоўны парыў! Гэта сведчыць аб тым, што наш народ любіць Марыю і патрэбны толькі штуршок, каб культ Багародзіцы развіваўся.

Мне таксама памятаецца адно здарэнне: прыехалі мы ў пэўную парафію, а там пробашч на працягу апошняга часу ўсё прасіў, каб прызначылі вікарыя. Калі мы толькі прыбылі, вікарыя яшчэ не было. А вось на развітальнай св. Імшы мы ўжо віталі новага святара ў парафіі. Такі, можна сказаць, маленькі цуд.

***– Адзін з абразоў, які прымае ўдзел у перэгрынацыі, – выява Маці Божай Будслаўскай. Гэты абраз быў падняты альпіністамі на найвышэйшую гару ў свеце – Эверэст – як сімвал самых узнёслых памкненняў беларускага народа. Як Вы лічыце, да чаго імкнуцца беларусы і ці атрымліваецца ў нас?***

– Марыя праз абразы прыносіць нам Бога як вялікі дар і заахвочвае нас імкнуцца да Яго. Разам з тым мы імкнёмся да еднасці, моцы і надзеі. Думаю, у нас атрымліваецца.

***– Ці ёсць у Вас нейкі план бліжэйшай перэгрынацыі?***

– Усё расписана ажно да лістапада! Чутка пра перэгрынацыю разыходзіцца, нам тэлефануюць пробашчы і запрашаюць – едзем куды заўгодна, з адной дыяцэзіі ў другую. Дарэчы, мы заўсёды ў сваю каманду бярэм ахвотнікаў – у перэгрынацыі цікава паўдзельнічаць, бо, калі плануем шлях, ёсць магчымасць наведаць іншыя касцёлы і мясціны.

Таксама можна стаць сведкам узрушваючых падзей. Ніколі не забуду, як падчас першай пілігрымкі, калі везлі абразы картэжам, тата з двума сынамі 9-12 гадоў сталі на калені і перажагналіся...

## Віктар Ведзень, фатограф, які спадарожнічае перэгрынацыі

*Назіраючы за вернікамі і мінакамі падчас перэгрынацыі, я заўважаў станоўчую і ўдзячную рэакцыю на падзею. Успамінаю пілігрымку ўздоўж межаў нашай краіны: спачатку яна не была на слыху ў людзей і шмат хто не ведаў пра яе, аднак ужо праз пару дзён нашай вандроўкі з Марыяй людзей станавілася ўсё больш.*

*Калі ўжо распачалася перэгрынацыя абразоў па розных касцёлах краіны, я заўважаў, як шанаваць Маці Божую ў цудадзейных іконах прыходзілі не толькі парафіяне ад малога да вялікага, але і шмат нашых праваслаўных братоў. Сярод копій абразоў з беларускіх санктуарыяў ёсць і тыя, што аднолькава ўшаноўваюцца ўсімі хрысціянскімі канфесіямі (напр. Маці Божая Жыровіцкая, Юравіцкая).*

*Незвычайна праявілі сваю пашану да Марыі дзеці астравецкай парафіі святых Космы і Дам'яна. На працягу прабывання абразоў у парафіі яны разам з катэхеткамі падрыхтавалі размалёўкі з кожнай іконай і расфарбавалі іх. Гэта выглядала так шчыра і прыгожа! Атрымаліся маленькія копіі копій цудадзейных вобразаў нашай Нябеснай Маці, зробленыя рукамі дзяцей!*

*Незвычайны і, можа, нават малаверагодны выпадак адбыўся менавіта са мной як з фатографам. Мы везлі абразы ў адну з парафій на Гродзеншчыне. Там рыхтавалася ўрачыстая сустрэча – вернікі павінны былі працэсіяй унесці выявы Маці Божай у касцёл. Гэта заўсёды прыгожы і духоўна значны момант для ўдзельнікаў.*

*Дзесьці на паўдарозе я зразумеў, што ў маім фотазаплечніку няма камеры, пры гэтым уся неабходная оптыка прысутнічае. Можна ўявіць мае думкі і пачуцці ў першыя некалькі секунд. Недарэчная сітуацыя. Як так магло стацца, калі перад выездам усё правяраў і ўсё было на месцы? Як я буду здымаць? Тэлефон не дапаможа ў складаных вячэрніх умовах, тут патрэбна якасная тэхніка. Фотаапарат не знайшоўся і ў машыне.*

*Ведаю, што ў падобных неспадзяваных выпадках трэба пастарацца ўспрыняць усё як мінімум нейтральна. А яшчэ лепш, аднак складаней, прыняць, што гэтая сітуацыя для нечага мне патрэбна. Так я і зрабіў.*

*Калі пад'ехалі да касцёла, я меў крыху часу, каб паспрабаваць вырашыць сваю "праблему". Пры размове з пробашчам*



Выдадзены брашуры з кароткай гісторыяй цудадзейных абразоў

*узгадаў, што некалі бачыў яго з фотаапаратам. Запытаў – і аказалася, што не памыліўся! Больш таго, у яго была такая ж сістэма, што і ў мяне, а гэта азначала, што аб'ектывы, якія былі са мной, падыходзяць. "Выпадкова, проста пашанцавала", – скажуць скептыкі. Аднак з якой доляй верагоднасці ўсё магло вырашыцца такім чынам?!*

*Відаць, нягледзячы на маю няўважлівасць, Маці Божая ўсё ж хацела, каб я адлюстраваў атмасферу сустрэчы.*

**АКТУАЛЬНА**

*Ватыканскае радыё*

### Бенедыкту XVI споўнілася 95 гадоў

У Велікодную нядзелю ў капліцы кляштара Mater Ecclesiae прайшла літургія, а затым на працягу велікоднага тыдня ў Ватыкан прыбыло некалькі невялікіх груп і асобных людзей, каб скласці віншаванні Папе на пенсіі.

Бенедыкт XVI нарадзіўся 16 красавіка 1927 года ў нямецкім горадзе Марктль-ам-Ін. Як і 95 гадоў таму, у гэты дзень у Касцёле была велікодная вігілія. Арцыбіскуп Георг Генсвайн, асабісты сакратар Бенедыкта XVI, адзначыў, што жыццёвы рытм Папы-эмерыта амаль не змяніўся з таго часу, як ён адмовіўся ад служэння на Пасадзе св. Пятра. Ён прысвячае шмат часу малітве, чытанню, перапісцы, займаецца музыкай, сустракаецца з людзьмі.

### ЮНЕСКА: 53 аб'екты сусветнай спадчыны знішчаны ва Украіне

Арганізацыя ААН па пытаннях адукацыі, навукі і культуры (ЮНЕСКА) зрабіла заяву на тэму аб'ектаў Сусветнай культурнай спадчыны ва Украіне. У выніку вайны часткова або цалкам знішчаны 53 з іх.

У папярэдні спіс, складзены ў супрацоўніцтве з мясцовымі ўладамі, уключаны 29 культавых будынкаў, 16 гістарычных будынкаў, 4 музеі і 4 помнікі. Справаздача абнаўляецца штодня, і колькасць пашкоджаных аб'ектаў пастаянна расце.

У спіс увайшоў Сафійскі сабор у Кіеве – адзін з найважнейшых аб'ектаў хрысціянскай культуры Усходняй Еўропы. Будаўніцтва храма, які стаў калыскай хрысціянства на Русі, пачалося ў пачатку XI стагоддзя, пасля хросту ў 988 годзе. З 1990 года ён належыць да Сусветнай спадчыны ЮНЕСКА.

### Нідэрландскія каталікі ўратавалі "кветкавую традыцыю" ў Ватыкане

Насуперак песімістычным заявам, што па фінансавых прычынах плошчу св. Пятра на Вялікдзень не ўпрыгожаць кветкамі з Нідэрландаў, гэта адбылося дзякуючы прадпрымальнасці галандскіх і славенскіх католікаў.

Ксёндз Антуан Бадар, рэктар нідэрландскага касцёла ў Рыме, мабілізаваў суайчыннікаў і на пачатку красавіка абвясціў, што традыцыя будзе захавана, на гэты раз у супрацоўніцтве з фларыстам Пітам ван дэр Бургам, які меў забяспечыць дастаўку саджанцаў, дрэў і кветак у Ватыкан перад папскай Імшой у Вялікдзень.

Расліны прыбылі ў Ватыкан на грузавіку ў пачатку Вялікага тыдня. Перад адпраўкай, 12 красавіка 2022 года, іх блаславіў біскуп Ганс ван дэн Хэндэ, старшыня епіскапату Нідэрландаў.

### Малітоўныя інтэнцыі на май

**паўсюдная**

Молімся, каб маладыя людзі, пакліканыя да паўнаты жыцця, адкрылі ў Марыі прыклад слухання, глыбіню распазнання, адвагу веры і прысвячэнне сябе служэнню.

**дыяцэзіяльная**

Молімся аб святых і адданых святарах для нашай дыяцэзіі.

# РЭЗУРЭКЦЫЯ Ў КАТЭДРЫ



Рэзурэкцыйная працэсія вуліцамі горада

**Ва ўрачыстасць Уваскрасення Пана біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч узначаліў св. Імшу ў катэдральным касцёле св. Францішка Ксаверыя ў Гродне.**

Кс. Юрый Марціновіч

Пасля двухгадовага перапынку, выкліканага пандэміяй, на пачатку літургіі адбылася рэзурэкцыйная працэсія вуліцамі горада. Падчас працэсіі, у якой неслі Найсвяцейшы Сакрамант, вернікі спявалі радасныя велікодныя песні пад музычнае суправаджэнне духавога аркестра.

Затым усе сабраліся ў катэдры – "маці" святынь Гродзенскай дыяцэзіі, – каб разам "убачыць і паверыць", што Хрыстос уваскрос, працягвае жыць і дзейнічаць у сваім Касцёле.

Біскуп Аляксандр Кашкевіч у гаміліі падкрэсліў, што Вялікдзень – свята надзеі, бо "ўваскрослы Хрыстос заклікае нас пакінуць цемру граху і смерці і выйсці да дзівоснага свята любові, праўды і жыцця – свята, якое ніколі не будзе мець канца".

На заканчэнне літургіі іерарх пажадаў вернікам моцнай, непахіснай надзеі, якая вынікае з пасхальнай веры ў перамогу Хрыста і якая будзе святлом на шляху штодзённага жыцця сярод усіх цяжкасцей, клопатаў, цярпенняў і перажыванняў.

## ПАЎСЮДНЫ КАСЦЁЛ

**БАЛІВІЯ.** Балівійскі Касцёл выказвае шкадаванне ў сувязі са смерцю 42-гадовага а. Уілберта Дазы OFM і заклікае разабрацца ў злачынстве, якое адбылося ў парафіі св. Францішка ў Санта-Крус. Генеральны сакратарыят Канферэнцыі біскупаў Балівіі ў сваім паведамленні выказаў шкадаванне і жах з нагоды гэтага злачынства. "Мы просім як мага хутчэй правесці яснае і дакладнае расследаванне, якое прывядзе да высвятлення тых страшных падзей. Перад абліччам росту ў Балівіі культуры гвалту, забойстваў жанчын, рабаванняў, марадзёрства і адсутнасці бяспекі для грамадзян, мы заклікаем усіх балівійцаў дзейнічаць на карысць культуры міру, у якой усе змогуць жыць у братэрстве", – гаворыцца ў паведамленні балівійскага епіскапату.

**ПОЛЬШЧА.** Агляд найкаштоўнейшага скарбу санктуарыя ў Чэнстахове здзейсніў праф. Кшыштаф Хмялеўскі з факультэта кансервацыі і рэстаўрацыі твораў мастацтва Варшаўскай акадэміі мастацтва, які на працягу многіх гадоў апекуецца гэтым незвычайным творам. Пагроза для абраза вынікае з самой яго матэрыі, бо ён напісаны на дошцы, адчувальнай да перападаў тэмпературы і вільготнасці, а стан драўніны ўплывае на пласты паліхрому, раствору і фарбы. Такая структура рэагуе пад уздзеяннем змены вільготнасці або тэмпературы навакольнага асяроддзя, кожны з кампанентаў змяняецца, што можа прывесці да раздзялення асобных слаёў і трэскання. Як паведаміў спецыяліст, стан абраза стабільны, улічваючы яго ўзрост і драматычную гісторыю – як старэйшую, так і навейшыя падзеі з часоў II Сусветнай вайны, калі гаспадары святыні, айцы паўліны, былі вымушаны хаваць абраз. Умовы таго перыяду паўплывалі на якасць малярнага раствору, які стаў крохкім і "адчувальным". Карыстаючыся нагодай, была заменена сукенка Маці Божай. Штогадовая праверка абраза Маці Божай Чэнстахоўскай праводзіцца з 1950 года.

**УКРАІНА.** Марыупальскае аддзяленне каталіцкай дабрачыннай арганізацыі "Карытас Украіна" паведаміла пра трагічную гібель дзвюх сваіх супрацоўніц. Адзначаецца, што цэнтр каталіцкай гуманітарнай місіі, у якім хаваліся жанчыны, быў абстраляны танкамі. Разам з супрацоўніцамі арганізацыі загінулі пяць іх сваякоў. Кардынал Тагле заўважыў, што валанцёры, якія рызыкуюць сваім жыццём, выконваюць "святую справу", сеючы праўду, справядлівасць, любоў і мір, якія зменяць свет. Ён запэўніў у малітве за гуманітарных работнікаў, якія гінуць у час баявых дзеянняў, падкрэсліваючы, што іх намаганні не будуць марнымі і абавязкова прынясуць плён.

**ІТАЛІЯ.** Улады краіны прынялі закон, які дазваляе выкарыстоўваць канфіскаваную ў мафіі маёмасць для размяшчэння бежанцаў з Украіны. На гэтыя мэты будуць перададзены 622 будынкі. У адпаведнасці з новым юрыдычным механізмам, аб'екты, якія не выкарыстоўваюцца і кіруюцца Агенцтвам па канфіскаваных актывах арганізаванай злачыннасці, сталі часова даступныя прэфектурам і муніцыпалітэтам. "Выкарыстанне канфіскаванай маёмасці набывае моцную сімвалічную каштоўнасць, паколькі нерухомасць, адабраная ў людзей, якія карыстаюцца насіллем, будзе перададзена на яго ахвярам, якія ўцяклі ад ваенных дзеянняў", – заявіла міністр унутраных спраў Лучана Ламаргезэ.

*Падрыхтавана на падставе інтэрнэт-крыніц.*

# ЦІ БУДУЦЬ СЁЛЕТА ПІЛІГРЫМКІ?

працяг са с. 1

**Пандэмія перарвала шматгадовую традыцыю пешых паломніцтваў у беларускія санктуарыі. Ужо два гады вялікія арганізаваныя пілігрымкі не ходзяць. Пытанне, ці адбудуцца паломніцтвы ў гэтым годзе, таксама застаецца адкрытым. "Чакаем рашэння біскупаў, але апошняе слова застаецца за ўладамі", – кажуць кіраўнікі пешых груп.**

Арцём Ткачук



Цяпер папулярныя індывідуальныя пілігрымкі і паломніцтвы невялічкімі групамі

### ДВА ГАДЫ БЕЗ ПІЛІГРЫМАК

Пачатак пандэміі зімой 2020 года паставіў пад пытанне правядзенне не толькі пешых паломніцтваў, але і саміх фэстаў у Будславе і дыяцэзіяльных санктуарыях. Тады за паўтары месяцы да фэсту ККББ абвясціла аб яго пераносе, аднак па ініцыятыве арцыбіскупа Кандрусевіча мерапрыемства ўсё ж адбылося ў фармаце парафіяльнага свята. Пра арганізацыю пешых пілігрымак не ішло нават мовы.

Нягледзячы на абмежаванні першага года пандэміі, вернікі самаарганізоўваліся ў невялікія паломніцкія групы і крочылі ў санктуарыі. У 2021 годзе ККББ аб'явіла, што Будслаўскі фэст адбудзецца, але "без арганізаваных пілігрымак". Разам з гэтым іерархі нагадалі, што "ахвотныя могуць ладзіць паломніцтвы ў індывідуальным парадку". Хваля такіх груп летась ужо была значна большай, чым годам раней.

### ЦІ ВЕРНУЦЦА ВЯЛІКІЯ АРГАНІЗАВАНЫЯ ГРУПЫ?

Кс. Павел Рудзьман, адказны за пілігрымку Баранавічы–Будслаў, адзначае, што арганізатары пешых паломніцтваў у Нацыянальны санктуарый чакаюць рашэння Канферэнцыі біскупаў. ***"Калі гэтае рашэнне будзе прынята, адказныя ўжо зоймуцца непасрэднай падрыхтоўкай"***, – распавядае ксёндз.

Рашэння біскупаў чакаюць таксама ў Гродне і Віцебску. ***"Яшчэ нічога не вядома, ёсць шмат нюансаў"***, – каменціруе кс. канонік Антоній Грэмза. Канцлер Віцебскай дыяцэзіі кс. Віктар Місевіч пацвярджае, што ў любым выпадку апошняе слова будзе за дзяржаўнымі ўладамі, бо "гэта масавае мерапрыемства па-за мурамі касцёлаў, якое трэба ўзгадняць". ***"Калі згода будзе, то пілігрымкі адбудуцца"***, – выказвае шчырае спадзяванне кс. Віктар. – ***Хацелася б, каб яны пайшлі, вярнуліся да нармальнага, але пакуль што цяжка адказаць на гэтае пытанне"***.

У сваю чаргу прадстаўнікі Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі кажуць, што пачынаюць падрыхтоўку да пілігрымак. Кс. Алег Шпець TChr, адказны за групу Мінск–Будслаў, адзначае, што на гэты конт ужо адбылася размова з арцыбіскупам Юзафам Станеўскім, і "ён сказаў, што будзем праводзіць пілігрымкі". ***"Пакуль канкрэтыкі яшчэ мала, але кавідныя абмежаванні не з'яўляюцца перашкодай"***, – дадае святар. А. Андрэй Жылевіч пацвярджае, што капуцыны ўжо маюць вызначанага каардынатара пілігрымкі Маладзечна–Будслаў і пачалі неабходную падрыхтоўку.

### ЦІ ЧАКАЮЦЬ ВЕРНІКІ ВЯРТАННЯ ПАЛОМНІЦТВАЎ?

***"Прынамсі, у мяне ніхто не пытаўся пра пілігрымкі. Асабіста не бачу асаблівага энтузіязму"***, – каменціруе кс. Грэмза. З гэтым меркаваннем згаджаецца і кс. Рудзьман: ***"Гэта праблема сучаснага чалавека, яго самаарганізацыі. Хто хацеў, той хадзіў і летась, і пазалетась"***.

Некаторыя суразмоўцы згадваюць праблему начлегаў. Пасля кавідных абмежаванняў многія вернікі і кіраўнікі школ з дыстанцыяй ставяцца да прыняцця пілігрымаў пад свой дах. ***"Накарміць людзей не праблема, пытанне хутчэй у тым, ці гатовыя пілігрымы ўзяць з сабой палаткі"***, – адзначае кіраўнік баранавіцкай пілігрымкі. – ***У той жа час, каб паставіць палатачны гарадок, таксама патрэбен адпаведны дазвол"***.

Кс. Дзмітрый Дубовік прыводзіць прыклад, што парафія ў Ваўкалатах, суседка санктуарыя ў Будславе, штогод прымала да 800 паломнікаў з Віцебскай дыяцэзіі. ***"Тамтэйшы пробашч кажа, што сёлета змогуць прыняць добра, калі палову"***, – распавядае будслаўскі кусташ. – ***Людзі не вельмі гатовыя прымаць пілігрымаў"***.

### ЦІ СТАНЕ БУДСЛАЎ БЕЛАРУСКІМ САНЦЬЯГА-ДЭ-КАМПАСТЭЛА?

Кс. Рудзьман мяркуе, што, "магчыма, ужо прыйшоў час такіх пілігрымак, як у Санцьяга-дэ-Кампастэла". ***"Гэта працавала апошнія два гады. Людзі хадзілі сваімі маленькімі групкамі. Як бы дзіўна не гучала, для мяне гэта было большым перажываннем, чым калі ідзе вялікая група. У шматлюднай групе я служу. А калі ідзеш з невялікай колькасцю людзей, то ёсць неверагоднае пачуццё малітвы пад спеў птушак, шум ветру ці цурчанне ручая. Мне падаецца, што тыя, хто паспрабаваў ісці самастойна, ужо не захочуць ісці з масавай групай. І я гляджу на гэта пазітыўна"***, – адзначае святар.

На дадзены момант усе арганізатары пілігрымак чакаюць канчатковых рашэнняў біскупаў і дзяржаўных чыноўнікаў. Суразмоўцы маюць надзею, што ўсе дазволы будуць атрыманы. ***"Мы не будзем стартаваць з канкрэтнай падрыхтоўкай, пакуль не будзе дазволу ад улад"***, – кажа кс. Шпець.

Пакуль тэма сёлетніх будслаўскіх урачыстасцей на стадыі выпрацоўкі. ***"Арцыбіскуп папрасіў, каб мы падумалі і прадставілі ідэі, а ён, у сваю чаргу, падумае над сваімі прапановамі"***, – распавядае кіраўнік мінскай пілігрымкі. А кс. Грэмза ўжо пацвердзіў, што ўрачыстасці ў Тракелях пройдуць пад дэвізам "Аб супакоі". У маі дакладна будзе вядомы лёс сёлетніх пілігрымак у Будслаў і іншыя санктуарыі.

# “ГОДНАСЦЬ ЖАНЧЫНЫ І ЯЕ ПАКЛІКАННЕ – СПРАДВЕЧНАЯ ТЭМА ЛЮДСКОЙ І ХРЫСЦІЯНСКАЙ РЭФЛЕКСІІ”

*працяг са с. 1*

***Кацярына Паўлоўская***

Можа ўзнікнуць пытанне, чаму часцей вядзецца гаворка пра павагу да жанчын, чым да мужчын? Ці мужчын паважаць не трэба? Канешне, трэба. Аднолькавая павага належыць кожнаму чалавеку, незалежна ад полу. Фемінізм (ад лац. femina – жанчына), нягледзячы на тое, што паўстаў як ***“ідэалогія вызвалення жанчын, якая вынікае з перакanання ў тым, што жанчыны адчуваюць несправядлівасць па прыкмеце полу”*** (E. Adamiak, Błogosławiona między niewiastami, Lublin 1997), звяртае ўвагу таксама на дыскрымінацыю мужчын. З узгаданай жа дыскрымінацыяй больш выразна на працягу гісторыі сутыкаліся жанчыны. Гэта таксама мае сваё адлюстраванне ў Святым Пісанні.

### АДРОЗНІЦЬ ГІСТАРЫЧНА-КУЛЬТУРНЫ КАНТЭКСТ

Вядома, што час, эпоха пакідаюць свой след і ў літаратуры, якая паўстала ў дадзены перыяд. Асаблівасці культуры, асаблівасці грамадскіх узаемаадносін, у тым паміж жанчынай і мужчынам, таксама апісваюцца ў кніжках пэўнага перыяду, пасрэдна альбо непасрэдна, хаця б праз тое, што іх аўтар жыў у канкрэтны час. Гэта датычыць і мастацкай літаратуры, і Бібліі. Святое Пісанне складаецца з кніг, якія пісалі людзі канкрэтнай эпохі. Святы Дух іх натхняў, натхняў іх розумы і сэрцы, але не пераносіў аўтараў у іншы гістарычны перыяд.

У пары з універсальнасцю паслання Святога Пісання ідзе патрэба асцярожнай і актуальнай інтэрпрэтацыі яго асобных фрагментаў, сказаў, слоў – як Старога, так і Новага Запавету. Гэтае правіла датычыць і ўрыўкаў, што апісваюць характар адносін паміж мужчынам і жанчынай, бо ён з’яўляецца адлюстраваннем часу Апосталаў.

### АБ ЖОНЦЫ, ПАДДАНАЙ МУЖУ, І НЕБЯСПЕЧНАЙ ТАЯМНІЦЫ

І веруючым, і няверуючым вядомы наступныя словы з ліста апостала Паўла: ***“Жонкі, падпарадкоўвайцеся сваім мужам, як Пану, бо муж – галава жонкі, як і Хрыстус – Галава Касцёла. Ён – Збаўца цела. Таму, як Касцёл падпарадкоўваецца Хрысту, так і жонкі падпарадкоўваюцца ва ўсім мужам. Мужы, любіце сваіх жонак, як і Хрыстус палюбіў Касцёл і аддаў сябе за яго, каб асвяціць яго [...]. Так павінны мужы любіць сваіх жонак, як сваё цела. Хто любіць сваю жонку, любіць самога сябе. Бо ніхто ніколі не меў нянавісці да свайго цела, але корміць і даглядае яго, як і Хрыстус свой Касцёл, бо мы члены Ягонага цела. Таму пакіне мужчына бацьку свайго і маці і злучыцца са сваёй жонкай, і будуць двое адным целам. Вялікая таямніца гэтая, а кажу я ў дачыненні да Хрыста і да Касцёла! Дык няхай кожны з вас любіць сваю жонку так, як самога сябе, а жонка няхай паважае мужа”*** (Эф 5, 22–26, 28–33).

У св. Паўла ёсць словы з больш жорсткімі фармулёўкамі адносна жанчын, аднак апісанню любові мужчыны да жанчыны ён прысвяціў ва ўзгаданым фрагменце больш слоў, чым пішучы пра “падпарадкаванне” жанчын. У некаторых жа пропаведзях, канферэнцыях, а таксама меркаваннях свецкіх большы акцэнт робіцца на першым абзацы ўзгаданага фрагмента, што па меншай меры неаб’ектыўна.

Урыўкам, дзе выразна відаць спалучэнне гістарычна-культурнага кантэксту эпохі і ўніверсальнасці паслання Бібліі, з’яўляюцца словы з Першага паслання апостала Паўла да Карынцянаў, у якім ён піша аб узаемнай залежнасці жанчыны і мужчыны і аб іх роўнасці перад Богам. Тут жа ён разважае над тым, ці павінна жанчына пакрываць сабе галаву: ***“Мужчына не павінен пакрываць сабе галаву, бо ён вобраз і адлюстраванне хвалы Божай. Жанчына ж – адлюстраванне хвалы мужчыны. Бо не мужчына ад жанчыны, але жанчына ад мужчыны. І не мужчына быў створаны дзеля жанчыны, але жанчына дзеля мужчыны. Таму жанчына павінна мець на галаве знак улады над ёю з увагі на анёлаў. Аднак у Пану няма ні жанчыны без мужчыны, ні мужчыны без жанчыны. Бо, як жанчына ад мужчыны, так і мужчына праз жанчыну, а ўсё ад Бога”*** (1 Кар 11, 7–12).



*“Рай” – фрагмент левай часткі трыпціха “Сад зямных асалодаў” (1500–1510 гг.), Іеранім Босх*

Больш жорсткія фармулёўкі Апостала прысутнічаюць у гэтым жа Пасланні: ***“Як ёсць ва ўсіх Касцёлах паміж святымі, жанчыны ў Касцёлах няхай маўчаць, бо не дазволена ім гаварыць, але няхай будуць падпарадкаваныя, як і кажа закон. Калі хочуць чаму навучыцца, няхай пытаюцца дома ў сваіх мужоў, бо сорамна жанчыне гаварыць у Касцёле”*** (1 Кар 14, 33–35). Прыведзеныя словы гучаць як мінімум несправядліва.



*Папа Францішак блаславяе жанчын падчас штотыднёвай агульнай аўдыенцыі ў Зале Паўла VI*

У іншым Пасланні да Цімафея св. Павел, адносячыся да слоў Старога Запавету, піша так: ***“А жанчыне не дазваляю навучаць і панаваць над мужам, але няхай застаецца ў цішыні. Бо першым быў створаны Адам, а потым Ева. І не Адам быў зведзены, але жанчына была зведзеная і зграшыла”*** (1 Цім 2, 12–14).

Доўгі час у публічнай сферы наконт жанчын выказваліся ў падаўляючай большасці мужчыны. Дадзены фрагмент Паслання Апостала для шматлікіх інтэрпрэтатараў і мысліцеляў быў пацвярджэннем “небяспечнасці” жанчын, якія былі для мужчын пэўнай таямніцай. Гэтая “небяспечнасць” вынікала з асацыяцыі жанчыны з цялеснасцю, якую, у сваю чаргу, звязвалі з нячыстасцю. Да таго ж лічылася, што жанчыны з’яўляюцца больш слабымі перад спакусамі д’ябла.

І хоць цяпер нас не здзіўляе жанчына, якая прамаўляе публічна ў Касцёле (у беларускім Каталіцкім Касцёле жанчын увогуле значна больш), можна надалей пачуць меркаванне – і ад святароў, і ад свецкіх мужчын (напэўна, і ад жанчын), – што менавіта жанчына больш вінаватая, напрыклад, у грахах, звязаных з сексуальнасцю, і што муж у сям’і мае больш паважаную ролю, чым жонка, бо яна мае быць “падданая”.

Такое разуменне слоў Святога Пісання з’яўляецца няправільнай інтэрпрэтацыяй біблейскіх урыўкаў пра жанчыну. Яна заключалася ў наданні тэкстам агульнаабавязковага вымярэння рэлігійнага паслання, без вылучэння слоў, якія адлюстроўвалі звычаі, што панавалі ў біблейскія часы, і ўніверсальнае пасланне пра жанчыну. Таксама з цягам часу адыграла пэўную ролю тое, што падпарадкаваны статус жанчын паранейшаму быў натуральным у сацыяльнай сістэме, у якой гэтыя фрагменты Пісання інтэрпрэтаваліся большасцю тэолагаў таго часу. Правільную інтэрпрэтацыю згаданых пасланняў увёў толькі св. Ян Павел ІІ у апостальскім лісце “Mulieris Dignitatem”.

### ЯН ПАВЕЛ ІІ АБ РОЎНАСЦІ ЖАНЧЫН І МУЖЧЫН У АПОСТАЛЬСКІМ ЛІСЦЕ “MULIERIS DIGNITATEM”

Праблемы правоў і месца жанчыны ў грамадстве ўздымаліся і папярэднікамі Яна Паўла ІІ. Ён жа першым апублікаваў афіцыйны касцёльны дакумент, цалкам прысвечаны жанчыне, яе годнасці і пакліканню – згаданы вышэй Апостальскі ліст “Mulieris Dignitatem”.

У ім, між іншым, Папа адзначыў паважлівае стаўленне Езуса да жанчын: ***“Хрыстос рабіў усё для таго, каб на фоне тагачасных звычаяў і грамадскіх адносін жанчыны знайшлі ў Яго вучэнні і ў Яго ўчынках уласцівыя ім суб’ектыўнасць і годнасць”***. Святы Айцец падкрэслівае, што ні ў словах, ні ў дзеяннях Хрыста няма ніводнага элемента або жэста, які б выказваў непавагу да жанчын.

Ян Павел ІІ таксама спаслаўся на Лісты св. Паўла. Інтэрпрэтуючы Пасланне да Эфесцаў, у якім Апостал піша пра падпарадкаванне жанчын, Папа падкрэсліў, між іншым, што “падпарадкаванне”, перш за ўсё, трэба разумець як узаемнае: жонка мужу, муж жонцы, і такое падпарадкаванне павінна існаваць у шлюбе.

Пішучы пра роўнасць мужчыны і жанчыны ў кантэксце Паслання да Цімафея: ***“Бо першым быў створаны Адам, а потым Ева. І не Адам быў зведзены, але жанчына была зведзеная і зграшыла”*** (1 Цім 2, 13–14), – Святы Айцец падкрэсліў, што “незалежна ад гэтага «падзелу роляў» у біблейскім апісанні, той першы грэх – гэта грэх чалавека, якога Бог стварыў мужчынам і жанчынай”.

Інтэрпрэтацыя Святога Айца вышэйзгаданых і не толькі фрагментаў Святога Пісання, у якіх гаворыцца пра жанчыну, мова, якой Папа “гаворыць” пра жанчыну ў “Mulieris Dignitatem” – усё гэта прынесла і працягвае прыносіць значныя змены ў стаўленні да жанчын у Каталіцкім Касцёле.

# ДЫРЭКТАР НАЦЫЯНАЛЬНАГА “КАРЫТАС”: “МЫ ПАКАЗВАЕМ БЕЖАНЦАМ З УКРАІНЫ, ШТО МЫ НЕ ВОРАГІ”

**Падчас Вялікага посту ККББ абвясціла, што з’явілася магчымасць аказваць дапамогу бежанцам “з ахопленай баявымі дзеяннямі тэрыторыі Украіны”. Біскупы заахвочвалі ладзіць збор дапамогі праз “Карытас”. З кс. Андрэем Аніскевічам, дырэктарам “Карытас Беларусь”, размаўляем пра тое, як праходзіць гэтая акцыя, аб яе першых выніках і актыўнасці беларусаў у справе дапамогі ўкраінцам.**

*Размаўляў Арцём Ткачук*




***– У пачатку красавіка беларускія біскупы абвясцілі збор ахвяраванняў і рэчаў для бежанцаў з Украіны. Сабраную дапамогу прапанавалася перадаваць у “Карытас Беларусь”. Можа, ёсць ужо першыя вынікі працы?***

– Так, акцыя трывае, але мы яшчэ не падводзілі вынікаў. Дамовіліся з пробашчамі, што ўсё падлічым на тыдні пасля нядзелі Божай Міласэрнасці, падрыхтуем інфармацыю і апублікуем. Да нас непасрэдна ў “Карытас” яшчэ вельмі мала сродкаў дайшло, таму цяжка сказаць дакладна пра аб’ёмы.

***– Значыць, уся дапамога, якая збіраецца па беларускіх парафіях, яшчэ ідзе да Вас?***

– Так, яшчэ збіраецца.

***– З якіх мясцовасцей і дыяцэзій атрымліваеце рэчы? Ці ёсць ужо на дадзены момант “лідары”, адкуль прыйшло найбольш дапамогі?***

– Дапамога паступае амаль з кожнай дыяцэзіі. Людзі перадаюць, што могуць, ад шчырага сэрца. Рэчы прыходзяць у добрым стане, хоць усё роўна трэба іх перабіраць, бо часам трапляецца хлам. Найбольш даслалі з мінскага Чырвонага касцёла, гэта дакладна. Адтуль прыходзіць усё, што толькі магчыма: вазкі для дзяцей, вопратка, харчаванне, пасцельнае, ручнікі…

***– Можа, ёсць дары, якія запомніліся асаблівым чынам?***

– Думаю, дзіцячыя гульні. Калі іх прыносяць бацькі з дзецьмі. Пры гэтым малышы аддаюць гульні, з якімі самі гуляюць, а не тыя, якія ўжо трэба выкідаць на сметнік. Часам прыносяць салодкае і перадаюць патрабуючым дзецям.

***– Ці валодаеце Вы лічбамі, колькі ўкраінскіх бежанцаў знаходзіцца цяпер у Беларусі?***

– Мы аказваем дапамогу для тысячы асоб. Гэта людзі, якія да нас звярнуліся. Сказаць, колькі ў нас увогуле бежанцаў з Украіны, складана.

***– Ці далучыліся да гэтай акцыі юрыдычныя асобы? Розныя фірмы ці кампаніі.***

– Так, ёсць некалькі такіх фірм. Аднак не магу агучваць назвы без іх дазволу.

***– Гэта кампаніі, уласнікі якіх давяраюць Касцёлу, ці тыя, дзе ўласнікі католікі?***

– Большасць – гэта, канешне, католікі, але ёсць і тыя, хто проста давярае Касцёлу, давярае “Карытас”. Ёсць ужо такія кампаніі, якія не звязаны з каталіцтвам, але ахвяруюць нам таксама на дзіцячыя дамы і іншыя мэты. Касцёл дапамагае, і людзі гэта бачаць.

***– Ці далучаліся да акцыі іншыя хрысціянскія або нехрысціянскія Цэрквы: праваслаўныя, пратэстанты, мусульмане?***

– Не, гэтым разам не далучаліся. Напрыклад, калі мы дапамагалі бежанцам з Ірака, то супрацоўнічалі з пратэстанцкімі Цэрквамі – з Евангельскай, Баптысцкай.

***– Калі параўнаць бягучую акцыю з іншымі ініцыятывамі Касцёла па зборы дапамогі ў сувязі з рознымі катаклізмамі ці раптоўнымі сітуацыямі – водгук людзей сёння большы ці меншы?***

– Найвялікшы водгук заўжды маюць акцыі, калі штосьці адбываецца ў нас ці дзесьці побач. Сённяшняя акцыя дапамогі нашым братам украінцам, якія церпяць з-за вайны, параўнальная па маштабах са зборам падтрымкі беларускім медыкам падчас пандэміі каранавіруса. Для прыкладу, водгук на дапамогу эмігрантам з Ірака, якія былі на нашай заходняй мяжы, не быў такім, як цяпер.

***– Ці ўдалося перадаць частку дапамогі ўкраінскім бежанцам, якія знаходзяцца на тэрыторыі Пінскай дыяцэзіі?***

– Так, мы ўжо дапамагаем. Працуем наступным чынам: збіраемся з дырэктарамі лакальных “Карытас”, абмяркоўваем патрэбы, якія ёсць у кожнага, робім спісы і рухаемся па меры неабходнасці. Стараемся рабіць гэта цэнтралізавана. Шмат людзей ужо атрымалі дапамогу – абсталяванне для кватэр ці дамоў, у якіх яны знаходзяцца, нейкія самыя неабходныя рэчы.

***– Што сёння найбольш ім неабходна?***

– Медыкаменты, ежа, абутак, адзенне. Харчаванне і лекі, хіба што, маюць большы прыярытэт, бо вопратку людзі заўжды з сабой маюць. Аднак у цэлым пакуль што не выдзяляецца нейкай асобнай групы рэчаў, якая б была асабліва запатрабаванай.

***– Як доўга яшчэ будзе трываць гэтая акцыя?***

– Яна бестэрміновая. Калі можна будзе дапамагаць – будзем рабіць гэта. Да нас цяпер далучаецца таксама “Карытас” Польшчы і Італіі, ужо падпісаны праекты, і яны будуць нас падтрымліваць.

***– Па вядомых прычынах адносіны многіх украінцаў да беларусаў сёння насцярожаныя. Ці заўважалі Вы плён аказваемай падтрымкі ў гэтым плане? Нейкія прамяні яднання, даверу на гэтым агульна змрочным фоне?***

– Мы не глядзім на адносіны людзей да нас. Перш за ўсё, дапамагаем тым, хто патрабуе. Гэта абавязак Касцёла. Напэўна, не варта штосьці рабіць, толькі каб спадабацца людзям. Канешне, нейкім чынам мы паказваем бежанцам з Украіны, што мы не ворагі, што хочам дапамагчы. Аднак галоўнае – прыслухоўваемся да слоў Папы, што, нягледзячы на ўсе абставіны, мы павінны быць там, дзе людзі ў бядзе. Гэта наш асноўны напрамак.

# ЛАПЕНІЦА: РАЗБУРАНАЯ СВЯТЫНЯ

працяг са с. 1

*Андрэй Вашкевіч*

Бываюць сітуацыі, калі святыню проста няма каму і няма для каго аднаўляць. Падобна сітуацыя выглядае і з былым Вяліка-Лапеніцкім касцёлам, бо пасля 1945 года нават сама назва Вялікая Лапеніца перастала існаваць, паколькі аднайменны двор быў далучаны да вёскі Грынявічы.

Вялікая, або, як раней казалі, Старая Лапеніца, вядома з канца XV стагоддзя. Гэта быў двор вялікага князя літоўскага, які валодалі Клочкі, Андрушковічы, Пукшты, Алендскія і многія іншыя прадстаўнікі шляхты Вялікага княства Літоўскага. Ужо ў першай палове XVII стагоддзя ў Старой Лапеніцы была даволі вялікая капліца, аднак стварэнне там кляштара францысканцаў звязана з родам Агінскіх.

У ліпені 1679 года Ян і Іаана Агінскія пасялілі ў Лапеніцы 12 айцоў францысканцаў, даўшы ім фальварак Целякі і карчму ў Поразаве. За гэта францысканцы абавязваліся збудаваць мураваны кляштар і заснаваць парафію. Але гісторыя будоўлі расцягнулася на цэлае стагоддзе. У 1745 годзе быў збудаваны толькі падмурак вялікага касцёла, а Булгарыны, якія валодалі Лапеніцай пасля Агінскіх, не мелі фінансавай магчымасці такі касцёл збудаваць хутка, хаця фундуш на яго ўзвядзенне быў закладзены яшчэ Агінскімі. Асвяцілі касцёл кляштара францысканцаў у 1785 годзе пад тытулам Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі, а парафія пры ім была закладзена толькі ў 1799 годзе.



*Знешні выгляд страчанага касцёла ў Вялікай Лапеніцы*

Касцёл быў збудаваны ў выглядзе трохнефнай базілікі. На фасадзе знаходзіліся шэсць разбяных вазонаў і крыж. Дах касцёла быў пакрыты гонтам, толькі пярэдняя яго частка была бляшанай. У касцёле знаходзілася пяць алтароў з намаляванымі на дошках і дрэве абразамі. У першыя дзесяцігоддзі XIX стагоддзя кляштар актыўна разбудоўвалі, тут паўсталі мураваны будынак кляштара, багадзельня, мноства драўляных гаспадарчых пабудоў.

Нягледзячы на высілкі тагачаснага ўладальніка Вялікай Лапеніцы і патрона святыні Яна Булгарына, у 1832 годзе касцёл быў зачынены. Убранства і абразы перадалі ў касцёл у Поразаве. Будынак прастаяў пустым амаль 40 гадоў. У 1870 годзе яго пачалі перарабляць пад праваслаўную царкву, змяніўшы знешні выгляд касцёла шляхам дабудовы пяці купалоў. Царква ў Вялікай Лапеніцы атрымалася па-сутнасці самым вялікім праваслаўным храмам у ваколіцы, прыход налічваў каля 2000 чалавек.

У 1915 годзе праваслаўныя святары, а таксама вялікая частка прыхаджан напярэдадні прыходу нямецкіх войскаў уцяклі ў Расію. Самы вялікі звон, падараваны яшчэ царом Аляксандрам II, падчас спробы яго дэмантажу адарваўся і разбіўся на шматлікія кавалкі. Пачынаючы з 1919 года, храм ізноў служыў католікам, аднак спыніць працэсы разбурэння святыні і капітальна яе адрамантаваць не паспелі ажно да 1939 года. Дарэчы ў 1919 годзе ў касцёле некаторы час служылі беларускія патрыёты ксяндзы Язэп Германовіч і Казімір Стаповіч, якім дасталася нялёгкая доля аднаўляць храм пасля некалькіх гадоў запусцення.

У савецкі час касцёл выкарыстоўваўся як клуб для паказу прапагандысцкіх кінастужак і выстаў, аднак у 1982 годзе яго канчаткова выраншылі перарабіць пад склад. Амаль да сярэдзіны былі разабраны сцены храма, выбілі ўваход, каб туды маглі заязджаць грузавікі і трактары, знішчыўшы пры гэтым цудоўны барочны партал. Будынак хаця і шмат страціў у сваім знешнім выглядзе, аднак і сёння, пусты і часткова зруйнаваны, застаецца велічным сведчаннем адданасці Божай справе тых людзей, якія будавалі святыню і служылі ў ёй.

## ЗАДАЙ ПЫТАННЕ

# Як распазнаць жыццёвае пакліканне?

*mlodziez.przemyska.pl*

*Няма чалавека без паклікання. Як адкрыць свой шлях? На чым засяродзіцца, а чаго не рабіць? Выбар у жыцці заўсёды звязаны з рызыкай, уласнай адказнасцю і наступствамі, а перадусім з адсутнасцю пэўных адказаў. Паглядзіце, як вы выбіраеце чалавека, з якім хочаце пражыць сваё жыццё: не ведаеце, што будзе на шляху, з чым сустрэнецеся, вядома, вы самі павінны клапаціцца аб гэтай прыгожай любові і кожны дзень развіваць яе ды песціць. Што тычыцца любога паклікання, кожны адчувае дзесьці ў сэрцы, дзе яго месца. Адзіная праблема ў тым, ці дае ён сабе час і прастору, каб разглядзець гэта.*

*Адкрываючы сваё пакліканне, варта памятаць пра 4 прынцыпы. Спачатку трэба вырашыць, чым вы хочаце займацца ў сваім жыцці. На парозе дарослага жыцця трэба задумацца аб тым, хто я, як хачу пражыць сваё жыццё, якія мае моцныя і слабыя бакі, ці адчуваю я сябе дарам. Другім крокам у адкрыцці паклікання з’яўляецца малітва – трэба пагаварыць пра пакліканне з Кімсьці, хто стварыў нас, з Кімсьці, хто ведае нас лепш за ўсё. Гэтым Кімсьці з’яўляецца Бог. Патрэбны хвіліны адарацыі, цішыні, чытання Божага слова. Што вельмі важна, падчас малітвы мы можам пачуць і Бога, і ўласнае сэрца, якое падкажа, што выбраць. Важным крокам у распазнанні свайго паклікання з’яўляецца суправаджэнне. Гэта нішто іншае, як дазволіць камусьці дапамагчы нам адкрыць Божы голас і праверыць яго. Можна звярнуцца да святара, манахіні, але таксама і свецкай асобы, вернай свайму пакліканню. Нельга шукаць усё жыццё, у рэшце рэшт трэба рызыкнуць. Чацвёрты крок у распазнанні паклікання – рашэнне. Кожнае рашэнне аб выбары пэўнага шляху вагаецца паміж страхам і радасцю. У пакліканні не ідзе гаворка пра 100% упэўненасці. Некаторыя людзі адкладаюць сваё рашэнне, пакуль не будуць цалкам упэўнены. Калі выбар адной з дарог мае шанс 50/50 і паказальнік нават трохі перамяшчаецца ў адзін з бакоў, гэта ўжо прыкмета таго, што да гэтага крыху пераважнага пункта трэба ўважліва прыглядзецца.*

*Яшчэ некалькі слоў пра пакліканне да выключнага служэння Богу. Сёння маладому чалавеку цяжка пачуць Божы голас, бо ён заняты, вымушаны рэалізоўваць шмат праектаў, гадзіны праводзіць за камп’ютэрам. Тады як адкрыць сваё пакліканне? Як пачуць гэтае “Ідзі за Мною”? Пакіньце ўсё; вазьміце толькі неабходнае; развітайцеся з бацькамі, братамі і сёстрамі; пакіньце тое, чым жылі дагэтуль; папрасіце пробашча, каб адвёў вас у кляштар, у семінарыю, бо, можа, вы ўжо нейкі час чуеце ў сваім сэрцы голас Божы, толькі баіцеся.*

*Напэўна, кожны пакліканы перад такім рашэннем правёў духоўную бітву. Колькі яна доўжылася – месяц, год, некалькі гадоў – сакрэт кожнага пакліканага. На самой справе гэтая бітва ў жыцці святара, манаха, кансэкраванай асобы адбываецца кожны дзень. Калі шукаеце адказу на пытанне аб сваім пакліканні, гэта знак, што Бог выразна стукае ў ваша сэрца.*

# ШТО БОГ РОБІЦЬ З ГРЭШНІКАМІ?

**Вялікі чацвер. Касцёл. Я стаю на каленях і чакаю, калі да мяне падыдзе ксёндз і падасць Цела Хрыста. Чакаю доўга: шмат людзей сёння. Пачынаю разглядацца навокал: там дзеці жвава тупаюць туды-сюды, там ціхенька моліцца жанчына, там нехта прыняў Камунію і сказаў: "Амэн", – а там нехта абапёрся на сцяну касцёла ад стомленасці.**

*Бажэна Панасевіч*




Я ўсё гэтак жа стаю на каленях і чакаю. Мой погляд дакранаецца да абразоў, што вісяць на сцяне, кожны з іх – адна са стацый Крыжовага шляху Езуса. Перада мной вісяць тры: VIII – Езус суцяшае іерусалімскіх жанчын; IX – Езус падае трэці раз; X – З Езуса здзіраюць адзенне.

Ксяндза ўсё няма. Мой погляд зноў скіроўваецца да абразоў. А больш за ўсё да абраза, дзе намалявана падзенне Езуса. Там Ён змучаны, без сіл ляжыць на зямлі, на Яго параненым і акрываўленым плячы – цяжкі драўляны крыж, а над Ім – натоўп з людзей і салдат. Салдаты тыкаюць у Хрыста дзідамі і моцна нешта крычаць, хтосьці цягне з усёй сілы за ланцуг, якім абвязаны Езус, хтосьці паказвае пальцам кудысьці туды… Відаць, на Галгофу.

"Як можна ўстаць, калі цябе яшчэ больш б'юць і раняць? Як можна падняцца, калі адусюль штурхаюць, крычаць?" – раптам падумала я. Ужо і адарвацца ад таго абраза не магу. Усё ўглядаюся і разважаю над гэтым вобразам.

А ў нашым жыцці, на жаль, так і адбываецца. Калі іншы чалавек "упаў", мы больш схільныя знайсці апраўданне таму, што так яму і трэба. Што ён з вялікай верагоднасцю заслужыў. Або яшчэ лепш: можам сказаць, што гэта Бог так карае. Мы не задумваемся ні на хвіліну, што перажывае гэты чалавек, праз што яму прыйшлося прайсці ці колькі разоў ён спрабуе і імкнецца падняцца. Тыкаем у яго сваімі правільнымі дзідамі-парадамі, разумнымі словамі з кніжак, паказваем дарогу, куды і да каго трэба ісці, што рабіць. А можам дабіць чалавека сваёй абыякавасцю. Няхай сам паднімаецца… У нас жа і так хапае клопату.

Так, Езус змог сам устаць і несці крыж далей. Таму што, "палюбіўшы сваіх у свеце, дарэшты палюбіў іх" (Ян 13, 1). З каленяў Яго ўзняла бязмежная любоў да цябе і да мяне: "Любоўю вечнай Я палюбіў цябе, таму Я захаваў міласць да цябе" (Ер 31, 3).

Прыйшоў ксёндз. Я прыняла Камунію, а гэтае разважанне засталося глыбока ў маім сэрцы. Калі вярнулася да яго, у галаве ўзнік вобраз, як да Езуса прывялі жанчыну, якую злавілі на чужалюстве. Праўда, у маім уяўленні яе не проста паставілі пасярэдзіне перад Ім і народам, яе штурхнулі, так што яна ўпала… і ляжала на зямлі, як і Езус ляжаў пад крыжам.

Ні яе, ні тых, хто прывёў гэтую жанчыну, Езус ні пра што не распытваў, не даваў ніякіх указанняў, не судзіў. Ён ціха пісаў пальцам па зямлі. Чула, што ў адным з каментарыяў да гэтага месца з Пісання гаворыцца, быццам Езус пісаў перад жанчынай, што любіць яе.

Не асуджае яе на смерць. Чаму? Яна ж сапраўды грэшніца, якая парушыла Божую запаведзь. Не асуджае, бо "Ён глядзіць не так, як глядзіць чалавек; бо чалавек глядзіць на аблічча, а Гасподзь глядзіць на сэрца" (параўн. 1 Вал 16, 7). "Бо Гасподзь выпрабоўвае ўсе сэрцы і ведае ўсе рухі думак" (1 Кр 28, 9).

Так, Бог заўсёды бачыць чалавека, і кожны ў Яго вачах каштоўны. "«Жанчына, дзе яны? Ніхто не асудзіў цябе?» Яна адказала: «Ніхто, Пане». Езус сказаў ёй: «І Я не асуджаю цябе. Ідзі і адгэтуль больш не грашы»" (Ян 8, 10–11).

Гэта бясконцая і неспасціжная любоў Бога да чалавека, якая так незразумелая нам, якую так цяжка прыняць: "Бо так палюбіў Бог свет, што аддаў Сына свайго Адзінароднага, каб кожны, хто верыць у Яго, не загінуў, але меў жыццё вечнае" (Ян 3, 16).

Хрысціянства патрабуе ад чалавека шмат намаганняў, працы над сабой, пастаяннага памірання ў нас старога чалавека і ўваскрасення яго да жыцця дзеля дабра і любові: да Бога, да сябе самога, да іншых людзей. Таму, калі зноў "упаў" ты ці нехта побач, памятай: "Любоў доўгацярплівая, любоў ласкавая, не зайздросціць, любоў не пыхлівая, не ганарыцца, не бессаромная, не шукае свайго, не гневаецца, не памятае зла, але радуецца разам з праўдай. Усё зносіць, усяму верыць, на ўсё спадзяецца, усё цярпіць. Любоў ніколі не мінае" (1 Кар 13, 4–8).

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

*Кс. Юрый Марціновіч, святар рымска-каталіцкага абраду*

***1 мая – каментарый да Евангелля на III Велікодную нядзелю** (Ян 21, 1–19)*

### Дарога любові

*Дваццаць першы раздзел Евангелля паводле св. Яна вядзе нас да берагоў Тыберыядскага возера. Апосталы, якія ў пэўны момант свайго жыцця кінулі сеткі, каб стаць лаўцамі людзей, пасля бурных падзей у Іерусаліме вяртаюцца, каб зноў стаць рыбакамі. На жаль, гэта немагчыма. Пасля шматгадовага знаёмства з Езусам цяжка вярнуцца да старой рэальнасці і ранейшых задач. Тая першая сустрэча з Хрыстом, потым паглыбленая, перамяняе вучняў да такой ступені, што яны губляюць здольнасць выконваць сваю першую прафесію. Ноч без улову становіцца доказам гэтаму.*

*Езус, які стаіць на беразе Тыберыядскага возера, паказаны як Той, хто прыходзіць на дапамогу сваім згубленым вучням. Гэты момант з разважаемай сцэны дэманструе нам, што для таго, каб распазнаць Бога, не трэба рабіць нейкія вялікія рэчы. Ён прыходзіць, калі мы займаемся сваімі звычайнымі справамі. Фактычна, перш чым мы вырашым шукаць Яго, Ён ужо знаходзіцца побач. І нават не чакае ад нас незвычайнай любові.*

*Калі вучні пасля цудоўнага ўлову рыбы дабіраюцца да берага, яны сустракаюць там Хрыста, які ўжо сам гатуе для іх пасілак і запрашае яго спажыць. Тут выразна бачна спасылка на Эўхарыстыю. Езус ва ўсіх сцэнах пасля ўваскрасення спасылаецца на пасілак і дае пазнаць сябе падчас яго. Так вучні, што ішлі ў Эмаўс, пазналі Яго ў ламанні хлеба. А ў Вячэрніку, калі Езус прыходзіць сам, пытаецца ў вучняў, ці ёсць у іх што паесці. Такім чынам, у гэтых сцэнах Хрыстос становіцца цэнтрам, з якога выпраменьваюць жыццё і любоў.*

*Спажыванне ежы з Уваскрослым для Пятра таксама з'яўляецца падставай таго, што спачатку трэба быць сябрам Езуса і ўдзельнікам Стала Пана, а толькі потым можна быць пакліканым да пастырскага служэння. Калі Езус адводзіць Пятра ўбок, Ён не папракае яго ў здрадзе. Хоча ведаць, ці той усё яшчэ любіць, таму што толькі на любові можна аднавіць сапраўдныя адносіны паміж вучнем і Хрыстом.*

*Шлях Пятра ад граху да вызнавання любові для нас поўны надзеі. Нават адрачэнне ад Бога можа быць сцёрта актам сапраўднай любові. Няхай дарога любові ніколі ў нас не загіне.*

*А. Андрэй Крот, святар грэка-каталіцкага абраду*

***8 мая – каментарый да першага чытання на IV Велікодную нядзелю** (Дз 13, 14. 43–52)*

### Для ўсіх народаў

*Першае чытанне IV Велікоднай нядзелі распавядае пра надзвычай важную ў гісторыі Царквы падзею. Апосталы, якія ў першыя гады пасля Уваскрасення прапаведавалі Добрую Вестку толькі юдэям, пачынаюць абвяшчаць Евангелле язычнікам. Прычынай адкрыцця супольнасці вернікаў Хрыста на іншыя народы стаў супраціў габрэяў навучанню пра ўваскрослага Збаўцу. Язычнікі з радасцю прынялі Евангелле. Вось як пра іх рэакцыю на Добрую Вестку пра Збаўленне распавядае аўтар Дзеяў Апосталаў: "Калі пачулі гэта язычнікі, узрадаваліся і славілі слова Госпада, і ўсе, пакліканыя да вечнага жыцця, паверылі. А слова Госпада пашыралася па ўсёй краіне" (Дз 13, 48–49).*

*Царква візантыйскай традыцыі ў Велікодны перыяд таксама звяртае ўвагу на тое, што збаўленне – гэта не ўласнасць аднаго народа. Робіць яна гэта ў V Велікодную нядзелю, званую нядзеляй Самаранкі. Падчас літургіі чытаецца Евангелле пра жанчыну з народу, якім прававерныя габрэі пагарджалі. Госпад пачаў дыялог з грэшніцай. Спевы Ютрані падкрэсліваюць, што ўчынак Хрыста быў нязгодны з традыцыямі юдэяў, а Самаранку паказваюць як тую, якая нясе Добрую Вестку пра Збавіцеля: "Жыццядайная Крыніца, Ісус Збаўца наш прыйшоў да крыніцы патрыярха Якуба і прасіў у жанчыны-самаранкі даць напіцца вады. Калі ж яна сказала, што гэта не паводле звычаю юдэяў, мудры Творца ласкавымі словамі прывёў яе да прашэння вады вечнае. Атрымаўшы, яна пайшла абвясціць усім, кажучы: «Хадзіце і гляньце на Таго, хто бачыць усё тайнае, – Бога, які прыйшоў у целе, каб збавіць чалавека»".*

*Цягам двух тысячагоддзяў гісторыі Царквы існавалі спакусы закрыць вучэнне Хрыста ў межах аднаго народу, адной краіны. Але хрысціянінам можа быць не толькі габрэй (беларус, паляк, рускі, італьянец, француз…). Хрыстос памёр за ўсіх.*

*На жаль, мы, людзі, заўсёды ставім межы. Давайце зададзім сабе пытанне: хто для мяне сёння з'яўляецца язычнікам ці самаранінам? Чалавек іншай нацыянальнасці? З іншымі, адрознымі ад маіх, поглядамі на жыццё, палітыку, культуру? Той, чые паводзіны не адпавядаюць нормам маралі? Але Хрыстос памёр і за яго. І ўваскрос для яго.*

## АД ШЧЫРАГА СЭРЦА

### ВІНШАВАННІ З НАГОДЫ ІМЯНІН І ДНЯ НАРАДЖЭННЯ

**Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Аляксандру Кашкевічу** жадаем душэўнага супакою, моцнага здароўя, штодзённай радасці і непахіснага жадання абвяшчаць Божае слова.

Рэдакцыя "Слова Жыцця"

**Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Аляксандру Кашкевічу** жадаю стойкасці ў святарскай паслузе, нязгаснага запалу ў абвяшчэнні Божага слова і непахіснай надзеі.

Генеральная настаяцельніца Супольнасці Сясцёр Дапаможніц Чыстцовым Душам с. Ірэна Златкоўская

**Паважанаму Айцу Віталію Юркевічу** жадаем Божага бласлаўлення, доўгіх гадоў жыцця і спакою ў сэрцы. Няхай кожны Ваш дзень будзе асвечаны прамянямі Божай міласэрнасці.

Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам са Слоніма

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Віктару Захарэўскаму** жадаем здароўя, шмат сіл, душэўнага супакою, неабходных Божых ласкаў і багатага плёну ў святарскім служэнні.

Парафіяне з Варнянаў і Вароны

**Паважаным Ксяндзам Станіславу Лабану і Аляксандру Лебядзевічу** жадаем доўгіх гадоў жыцця ў Божым Провідзе і бласлаўлення Пана на кожны дзень.

Апостальства "Маргарытка" парафіі св. Яна Хрысціцеля ў Беняконях

**Паважаным Ксяндзам Юрыю Свіслоцкаму, Юрыю Павайбу і Юрыю Марціновічу** жадаю бязмежнай радасці ад уваскрасення Хрыста і шчодрага плёну ў святарскай паслузе.

Уладзіслаў

**Дарагому Ксяндзу Юрыю Бяганскаму** жадаем адкрытасці на Божае слова. Няхай яно ўмацоўвае Вас, святы апякун заступаецца за Вас перад Богам, а Марыя ахінае сваёй апекай.

Парафіяне з Тракеляў

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Баклажцу** жадаем доўгіх гадоў жыцця, здароўя, Божага бласлаўлення і апекі Найсвяцейшай Маці. Няхай Святы Дух кіруе і асвячае!

Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Крамяніцы

**Паважанаму Ксяндзу Генадзю Рамашко** жадаем моцнага здароўя, апекі Маці Божай і бласлаўлення ўваскрослага Езуса на кожны дзень. Аддзяч Божа, што былі з намі!

Парафіяне касцёла Найсвяцейшай Тройцы ў Германішках

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Аляксандру Рудзевічу** жадаем патрэбных Божых ласкаў, моцнага здароўя на доўгія гады, шмат радасных дзён і цішыні ў сэрцы.

Парафіяне з в. Старое Сяло

**Паважанаму Ксяндзу Віктару Захарэўскаму** жадаем моцнага здароўя, Божай дапамогі ва ўсім, добрага настрою, апекі Маці Божай і ўсяго найлепшага.

Былыя парафіяне з Астраўца

### ВІНШАВАННІ З НАГОДЫ ДНЯ СВЯТАРА І ВЕЛІКОДНЫХ СВЯТ

**Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Аляксандру Кашкевічу, Ксяндзам Пробашчу Алегу Яновічу, Юрыю Марціновічу і Лёону Лішыку, Айцам Вальдэмару Слоту, Валерыю Мазюку і Аляксандру Дрогасю** жадаем добрага здароўя, шчасця, доўгіх гадоў жыцця і Божага бласлаўлення.

Вернікі парафіі Воўпа

**Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Аляксандру Кашкевічу, Ксяндзам Каноніку Здзіславу Вэдэру, Паўлу Шчарбіцкаму, Казіміру Мураву, Артуру Ляшнеўскаму, Аляксандру Мятліцкаму, Віктару Захарэўскаму, Алегу Каралёву, Алегу Жураўскаму, Уладзіславу Сурвілу, Яўгену Учкуронісу, Сёстрам Марыі Стасевіч, Вераніцы Блізнюк, Ірыне Барцэвіч, Валянціне Кот, Мар'яне Алешчык, Філатэі Ціхановіч, Аляксандры Арэшка, Агаце Смольскай, Клары Волчэк і Тэрэзе Сольнічэк** жадаю здароўя на доўгія гады. Няхай Пан Бог адорвае Вас сваімі ласкамі, умацоўвае веру і надзею, а Марыя штодзённа апекуецца.

Аліцыя Воранава са Смаргоні

**Паважаным Ксяндзу Каноніку Яну Рэйшалю, Сястры Ганне Насевіч і Арганістцы Ганне Стасевіч** жадаем, каб уваскрослы Хрыстос бласлаўляў Вас кожны дзень і адорваў здароўем, Марыя ахінала любоўю і апекай, а Святы Дух удзяляў свае дары.

Вернікі капліцы Ліпічна

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Рудзевічу** жадаем, каб уваскрослы Хрыстос бласлаўляў Цябе ў паслузе, адорваў здароўем і ўмацоўваў веру, а Марыя мела ў апецы.

Мама Антаніна, брат Дзмітрый і брат Генрых з сям'ёй

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Паўлу Гедройцю** жадаем здароўя, радасці і душэўных сіл. Няхай кожны Ваш дзень будзе асвечаны любоўю, міласэрнасцю і спакоем.

Вернікі парафіі Галынка

**Паважаным Ксяндзам Дзмітрыю Несцеру, Віктару Савіцкаму і Юрыю Марціновічу** жадаем моцнага здароўя, радасці і прыгожага плёну на Божай ніве. Няхай уваскрослы Езус адорвае Вас бласлаўленнем і любоўю.

Вернікі капліцы Вінцукі

**Паважаным Ксяндзу Прэлату Вітольду Лазавіцкаму і Айцу Казіміру Енджэйчаку** жадаем добрага здароўя, шчодрых дароў Святога Духа, апекі Панны Марыі і ўваскрослага Хрыста.

Жыхары вёскі Шэмбелеўцы

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Паўлу Скубу і Віктару Захарэўскаму** жадаем шчодрых ласкаў ад уваскрослага Езуса. Няхай Яго міласэрнасць асвячае Ваш шлях.
**Ксяндзу Віктару** з нагоды дня нараджэння жадаем, каб кожны дзень прыносіў добрыя весткі, а сэрца не краналі трывогі.

Вернікі з Раготна

**Паважанаму Ксяндзу Раману Ялоўчыку** жадаем, каб Хрыстос заўсёды быў для Вас Крыніцай невычэрпных дароў, каб Вы ўсім жыццём сведчылі аб прыналежнасці да Бога.

Парафіяне касцёла св. Міхала Арханёла ў Гнезне

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Чэславу Паўлюкевічу і Святарам, якія служылі ў нашай парафіі,** жадаем, каб Дух Суцяшыцель быў з Вамі праз свае святыя дары і каб Марыя аберагала Вашу веру ды дапамагала захаваць любоў да Бога і Касцёла.

Парафіяне з Росі

**Паважанаму Ксяндзу Уладзіміру Аксенцьеву** жадаем здароўя, душэўнага супакою і Божага бласлаўлення. Няхай Святы Дух асвячае Ваш шлях, а Маці Божая дадае сіл.

Вернікі парафіі Лядск, в. Еўлашы, Багданы і Доўгая

**Паважаным Ксяндзу Каноніку Віктару Велівісу і Сястры Паўліне** жадаем, каб Езус быў для Вас Крыніцай сіл і радасці, Святы Дух апраменьваў святлом, а Марыя прытуляла да сябе.

Парафіяне касцёла св. Роха ў Грандзічах

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Юзафу Багдзевічу і Яўгену Ціхану, Сёстрам Але і Рэгіне** жадаем, каб уваскрослы Хрыстос адорваў Вас сваімі ласкамі, бласлаўляў у паслузе і спадарожнічаў на шляху да святасці.

Вернікі парафіі свсв. Космы і Дам'яна ў Астраўцы

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Уладзіміру Гуляю, Віталію Сідорку, Раману Вайцяховічу, Марэку Занеўскаму, Дыякану Уладзіславу Малышку, Ксяндзам, якія служылі ў нашай парафіі, а таксама Сёстрам Галіне Занеўскай і Дануце Бяленік** жадаем добрага здароўя, шчасця і шчодрых Божых ласкаў. Няхай Езус Вас бласлаўляе, Святы Дух вядзе праз жыццё, а Марыя апекуецца.

Касцёльны камітэт, апостальства "Маргарытка" і вернікі парафіі Ліда-Фара

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Алегу Канановічу і Святарам дэканата Вялікая Бераставіца** жадаем, каб Хрыстос – уваскрослы Збаўца свету – шчодра адорваў Вас ласкамі, радасцю, супакоем і бласлаўленнем.

Францішканскі ордэн свецкіх з Вялікіх Эйсмантаў

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Паўлу Скубу і Віктару Захарэўскаму** жадаем спакою, які прыносіць свету ўваскрослы Пан. Няхай Хрыстос сцеражэ і бласлаўляе.
**Ксяндзу Віктару** з нагоды дня нараджэння жадаем здароўя і патрэбных Божых ласкаў.

Вернікі парафіі Дварэц

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Антонію Казлоўскаму** жадаем Божага бласлаўлення, апекі Маці Божай, моцнага здароўя, сіл на святарскім шляху, радасці і супакою ў сэрцы.

Вернікі в. Малінавая

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Лебядзевічу** жадаем бласлаўлення ад уваскрослага Хрыста, апекі Панны Марыі і моцнага здароўя.
З нагоды імянін жадаем патрэбных Божых ласкаў і нястомнасці ў абвяшчэнні Яго Слова.

Колы Жывога Ружанца парафіі Суботнікі

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Паўлу Шанчуку** жадаем бласлаўлення ад уваскрослага Хрыста на кожны дзень. Няхай Ваш святарскі шлях будзе шчаслівы.

Парафіяне з Гожы

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Паўлу Безляповічу, Валерыю Спірыдону, Юрыю Канапельку і Андрэю Пышынскаму** жадаем шчодрых Божых ласкаў і бласлаўлення ад уваскрослага Хрыста. Няхай уваскрасенне Пана дазволіць Вам з даверам глядзець у будучыню.

Вернікі парафіі Мсцібава

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Юрыю Барташэвічу** жадаем, каб уваскрослы Езус бласлаўляў кожны дзень Вашага жыцця, адорваў здароўем, сіламі і душэўным супакоем.
З нагоды імянін жадаем радасці, зычлівых людскіх сэрцаў побач і апекі святога Юрыя.

Парафіяне, Колы Жывога Ружанца і Касцёльны камітэт з Жырмунаў

**Паважаным Ксяндзам Паўлу Калесніку, Анджэю Ганчару, Дзянісу Бразінскаму, Яну Гавецкаму, Віталію Цыбульскаму, Артуру Валчкевічу і Алегу Яновічу, Сёстрам Ірэне, Марыі і Зоф'і** жадаем, каб святло ўваскрослага Хрыста апраменьвала Ваша жыццё, Святы Дух удзяляў свае дары, а Марыя з любоўю чувала над Вамі.
**Ксяндзу Анджэю** з нагоды 5-ай гадавіны святарства жадаем Божага бласлаўлення і шчодрага плёну ў паслузе Касцёлу.

Легіён Марыі, апостальства "Маргарытка" і літургічная служба алтара парафіі свсв. апосталаў Пятра і Паўла ў Іўі

**Паважаным Ксяндзам Паўлу Калесніку і Анджэю Ганчару** жадаем радасці ад выканання паслугі, дароў Святога Духа і патрэбных ласкаў ад уваскрослага Хрыста.

Вернікі капліцы Маці Божай Вастрабрамскай у Урцішках

**Паважанаму Ксяндзу Руслану Мазану** жадаем шчодрых ласкаў і бласлаўлення ад уваскрослага Хрыста, дапамогі Маці Божай, здароўя, радасці і людской дабрыні.

Сябры

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Рушніцкаму** жадаем здароўя, поспехаў, зычлівых людзей побач, душэўнага супакою, нястомнай радасці на кожны дзень і апекі Маці Божай.

Сем'і Стэцкевіч і Васільевых

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Рушніцкаму** жадаем, каб Бог спадарожнічаў Вам кожны дзень, ахоўваў ад усякага зла, а таксама дадаваў сіл для выканання паслугі.

Парафіяне і Касцёльны камітэт з Каробчыцаў і навакольных вёсак

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Кучынскаму** жадем, каб уваскрослы Хрыстос адорваў Вас патрэбнымі ласкамі і ўзмацняў для змагання са штодзённасцю.

Малітоўная група Маці Божай Кангрэгацкай

**Паважаным Ксяндзу Пробашчу Яўгену Учкуронісу і Сястры Ідаліі Мархоцкай** жадаем здароўя на доўгія гады, душэўнага супакою, радасці, усмешкі і цудоўнага плёну на ніве Пана.

Легіён Марыі, апостальства "Маргарытка" і вернікі парафіі св. Яна Паўла II у Смаргоні

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Канапельку** жадаем, каб Бог Айцец і Божы Сын заўсёды Вамі апекаваліся, Святы Дух удзяляў свае дары, а Панна Марыя нястомна была побач.
З нагоды дня нараджэння і імянін жадаем здароўя на доўгія гады, штодзённай радасці і надзеі.

Парафіяне са Студзенікаў

**Паважаным Айцу Пробашчу Аляксандру Махначу, Дыякану Аляксанру Гецевічу і ўсім Айцам Піярам** жадаем, каб кожны дзень быў шчаслівы і бласлаўлёны, сэрца напаўнялася радасцю, любоўю і надзеяй, а ў душы жыў супакой.
**Айцу Пробашчу** з нагоды імянін жадаем моцнага здароўя, сіл і цярплівасці ў паслузе.

Вернікі і члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам парафіі Ліда-Індустрыяльны

**Паважанаму Ксяндзу Валянціну Хведуку** жадаем моцнага здароўя, нязгаснага запалу ў абвяшчэнні Евангелля, душэўнага супакою, патрэбных Божых ласкаў і апекі Маці Божай.

Сем'і Палубок, Амяльянчык і Хвядук

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Паўлу Звяжынскаму** жадаем шчодрых ласкаў ад уваскрослага Пана, апекі Маці Божай, здароўя і плённай душпастырскай паслугі.

Вернікі касцёла св. Станіслава Косткі ў Ваўкавыску

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Мар'яну Хаменю і Пятру Вішнеўскаму** жадаем здароўя і стойкасці на доўгія гады паслугі, дароў Святога Духа і апекі Маці Божай.
**Ксяндзу Пробашчу** з нагоды імянін жадаем патрэбных Божых ласкаў і бласлаўлення.

Вернікі парафіі Найсвяцейшай Тройцы і члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Шылавічаў, Субачаў і Кукелкаў

**Паважанаму Ксяндзу Вячаславу Матукевічу** жадаем здароўя, сіл і душэўнага супакою. Няхай Бог Вас бласлаўляе, Марыя ахінае апекай, а Святы Дух будзе шчодры на свае дары.

Касцёльны камітэт і вернікі парафіі Нараджэння НПМ у Дудах

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Здзіславу Пікулу** жадаем моцнага здароўя, сіл, людской зычлівасці, радасці, душэўнага супакою і шчодрага плёну на ніве Пана.

Касцёльны камітэт і вернікі парафіі Унебаўзяцця НПМ у Дзятлаве

**Паважаным Ксяндзам Прэлату Антонію Філіпчыку, Юрыю Садоўскаму і Віталію Пяткевічу, а таксама Сёстрам Школьным дэ Нотр-Дам, якія працуюць у парафіі,** жадаем моцнага здароўя, дароў Святога Духа, бласлаўлення ад уваскрослага Хрыста і людской добразычлівасці.

Парафіяне, Ружанцовыя колы і Францішканскі ордэн свецкіх

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Рудзевічу** жадаем, каб уваскрослы Езус быў для Вас Крыніцай радасці і супакою, адорваў здароўем, цярплівасцю і патрэбнымі ласкамі.

Вернікі парафіі св. Міхала Арханёла ў Луконіцы

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Яну Этэлю, Аляксею Венцкевічу, Генадзю Лаўніковічу і Валерыю Пупкевічу, Сёстрам Дароце і Аўгустыне, а таксама Арганістцы Юліі** жадаем, каб уваскрослы Хрыстос бараніў ад няшчасцяў, а Святы Дух шчодра адорваў патрэбнымі ласкамі.

Касцёльны камітэт і вернікі парафіі Гродна-Вішнявец

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Валянціну Хведуку і Віктару Захарэўскаму** жадаем, каб Бог адорваў Вас сваімі ласкамі, а Маці Божая апекавалася на працягу ўсяго жыцця.
З нагоды дня нараджэння жадаем Вам моцнага здароўя, душэўнага супакою, радасці і пленнай паслугі.

Парафіяне з в. Моцевічы

**Паважаным Кяндзам Пробашчу Аляксандру Раманоўскаму, Яну Варанецкаму і Андрэю Зайко** жадаем, каб Ваша вера ўзрастала кожны дзень, надзея ніколі не пакідала сэрца, а любоў квітнела ў душы цудоўнай кветкай.
**Ксяндзу Пробашчу** з нагоды імянін жадаем моцнага здароўя, сіл і душэўнага супакою.

Парафіяне і члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам касцёла Беззаганнага Зачацця НПМ, Гродна-Паўднёвы

**Паважанаму Ксяндзу Віктару Ханько** жадаем, каб уваскрослы Хрыстос блаславіў Вас і ахоўваў, а Марыя няспынна апекавалася. Моцнага здароўя і нязгаснага запалу ў паслузе.

Парафіяне з Мастоў

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Антонію Абухоўскаму, Каноніку Юрыю Свіслоцкаму, Юрыю Павайбу і Юрыю Марціновічу, Сёстрам Гарэцці, Паўле, Эўхарыі і Юліце** жадаем здароўя і радасці. Няхай сэрцы будуць напоўнены Божым спакоем і любоўю ўваскрослага Пана.

Касцёльная рада і сям'я Касцюшкаў

**Паважанаму Айцу Казіміру Енджэйчаку** жадаем спазнаць радасць, якую прыносіць уваскрослы Пан. Няхай Божы супакой напоўніць сэрца, каб з надзеяй і адвагай крочыць праз жыццё.

Валерый, Вераніка і Яна

***Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні.***

У сувязі са смерцю
**МІХАІЛА ТОЧКО**
выказваем словы спачування яго родным і блізкім. Вялікі дзякуй яму за адданасць і руплівасць да нашай роднай святыні.
Вечны адпачынак дай яму, Пане!

*Сябры*

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** галоўны рэдактар – **кс. Юрый Марціновіч;**
заснавальнік – **Гродзенская рымска-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання – **1997**; рэгістр. **№1085**; выдавец – **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** тэл. **(80152) 61-05-37; (8029) 571-30-77** (мтс); e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com; http://www.slowo.grodnensis.by.**
Друк: **ААТ "Брэсцкая друкарня",** 224013 Брэст, прасп. Машэрава, 75; тыраж 4700; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты.
Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная.